# ПАГОНЯ

РЭГІЯНАЛЬНЫ АГЛЯД: ГОРАДНЯ — БЕЛАСТОК — ВІЛЬНЯ

ЗАСНАВАНА Ў 1920 Г.

№ 9 (23) 16—23 красавіка 1993 г. Кошт 5 рублёў



У 1977 г. у Маскве ў адзін дзень адбыліся адразу ТРЫ ЎСЕСАЮЗНЫЯ ЗЬЕЗДЫ ДЫСІДЭНТАЎ. Успамінае адзін з яго ўдзельнікаў, жыхар Горадні.

Зацемкі пра леташні візіт у Горадню польскага прэм´ера й пра наведваньне вёскі, дзе жывуць землякі ЭЛІЗЫ АЖЭШКІ, праваслаўныя й каталікі.

Міліцыі цяжка даць рады з «МЕДНАЙ ЛІХАМАНКАЙ». Крадзежнікі выяўляюць вялікі спрыт і вынаходлівасьць.

Праграма ТЭЛЕБАЧАНЬНЯ на наступны тыдзень: Менск — Варшава — Масква.

## Эмігранцкі друк

### Амэрыканская кукуруза

Урад ЗША падорыць Беларусі кукурузы на 19 мільёнаў даляраў, а Расеі — пшаніцы й рысу на 102 млн. д., паінфармаваў 12 сакавіка міністар сельскай гаспадаркі Амэрыкі Майк Эспі. Пры гэтым сп. Эспі сказаў, што ўрад ЗША падтрымвае дэмакратычныя рэформы, якія адбываюцца ў Расеі.

### Для школьнікаў

У выдавецтве Лернэра выйшла багата ілюстраваная й цудоўна афармленая кніжка для амэрыканскіх школьнікаў пра Беларусь. Гэткія кніжкі выйдуць пра кожную з 15 былых рэспублік СССР. На 56 старонках кнігі вялікага фармату, выдадзенай на люксусовай паперы, зьмешчана шмат каляровых здымкаў. У адмысловым слоўнічку школьнікам тлумачацца такія тэрміны, як «Садружнасьць Незалежных Дзяржаваў», «камуніст», «усходнія славяне», «Летува» (гістарычная, якую тварылі летувісы й беларусы), «палянізацыя», «русыфікаваць» і інш. Кніжка напісана даволі аб´ектыўна, без вялікіх памылак, якія сустракаліся дый сустракаюцца ў некаторых заходніх публікацыях пра Беларусь. На задняй вокладцы зьмешчаныя дзьве беларускія паштовыя маркі: адна з Пагоняй, другая з белчырвона-белым сьцягам.

**«Беларус», г. Новы Ёрк.**

## Вялікодны акцэнт

По пятніцах перад працай я звычайна гляджу ранішнюю варшаўскую тэлепраграму «Кава чы хэрбата?» 9-га ў ёй паведамілі аб нібы папярэджаным замаху на прэзідэнта Валэнсу. Зьбянтэжаны спадар прэзідэнт быццам адказаў журналістам: «Добрыя собе жарты...»

■

Але тут свой клопат. Днём раней мы даслалі ад рэдакцыі падтрымную тэлеграму спадару Шушкевічу. З другога разу, бо на пошце спачатку не прынялі, блянк быў без пячаткі... Нейкі расейскі клясык растлумачыў, што халопства — найвышэйшая ступень рабства, халоп пачуваецца шчасным, што ён — раб. Паскудна чуешся праз сваю бязраднасьць, калі за цябе ўсю вырашаюць... іншыя.

Памятаю зьдзеклівы камэнтар «Газэты Выборчэй» да соймавых дэбатаў пра аборты: маўляў, каб падобныя апантанасьць й зацікаўленьне паслы выяўлялі ва ўсіх іншых пытаньнях, дык праца Сойму была б значна больш плённай. У нас сітуацыя падобная. Замест умацоўваць сувэрэнітэт, яго разбураюць, заўзята, ваяўніча, з асалодаю. Своеасаблівы мазахізм. Ужо лепей бы яны паспрачаліся пра аборты.

■

Калега-сталічнік паведаміў, што ў Менску «Пагоню» чытаюць нават у мэтро. Тэлефанаваў у рэдакцыю «Нашай Нівы», туды таксама нашая газэта трапіла са сталіцы. Сёньня даслаць у суседнюю Вільню 50 паасобнікаў «Пагоні» каштуе больш за 2 тысячы рублёў, у месяц гэта амаль 10 тысяч. Адгарадзіліся плотам.

■

Увечары пятніцай палякі трансьлявалі з Рыму ўрачыстасьць шэсьця па «Віа до лароса» — крыжовай дарозе. Тысячы люду з запаленымі сьвечкамі, мноства мнішак усіх расаў. Наперадзе ступае з крыжам Папа Рымскі, абапал два ахоўнікі ў цывільным з паходнямі, крокаў праз дзесяць сьледам — сьвятары. Калізей, дзе адбылася ўрачыстасьць, выглядаў відовішчна. Яцак Москва, сталы карэспандэнт у Рыме, паведаміў, што набажэнства таксама трансьлявала летувіскае тэлебачаньне.

Велічна гучалі каталіцкія сьпевы. А потым выконвалася фартэп´янная музыка І. Падэрэўскага. Першым прэзідэнтам Польшчы быў вялікі піяніст, праўда нядоўга.

■

За выхадныя палякі паказалі багата вялікодных сюжэтаў: як фарбуюць і размалёўваюць у сем´ях сьвяточныя яйкі, як у касьцёле іх сьвенцяць. Паглядзеў я таксама зфільмаваную рок-опэру «Ісус Хрыстос — супэрзорка», ролю Юды ў якой выконваў мурын. Пілат, які ня хоча крыві, гаворыць люду: «Ён ваш цар юдэйскі і ён бязьвінны». Але натоўп у адказ зароў: «Разкрыжуй яго! Разкрыжуй!» Менскае тэлебачаньне, зрэшты, таксама паказала набажэнства ў касьцёле Сьвятога Роха. Вось бадай што і ўсё. Бо касьцёл у нас «польскі», няхай ім і застаецца. Мы ж людзі праваслаўныя, рускія, «только язык наш поляками испорчен».

У адным сваім апавяданьні я апісаў тое, як Хрыстос нёс свой крыж. Апавяданьне надрукавалі, але ўвесь кавалак пра пакутніка быў бяз згоды аўтара бязьлітасна выкасаваны. Маўляў, не выпендрывайся, «эрудыт»..

**С. АСТРАВЕЦ.**

**Шаноўныя спадарыні й спадары!**

**Газэта «ПАГОНЯ» — гэта зьвесткі з Гарадзеншчыны, Віленшчыны й Беласточчыны. Калі вас цікавіць беларускае жыцьцё ня толькі на Беларусі, але таксама ў Польшчы й Летуве, дык падпішыцеся на нашу газэту! Паўгадавы кошт — 303 рублі, індэкс — 63124. Падпіска прымаецца ў любым паштовым аддзяленьні Рэспублікі Беларусь.**

**В. Дамброўскі**

**КАРОТКАЕ АПАВЯДАНЬНЕ**

## Шабельная навала

На золку вільготнае з ночы паветра страсянула выбухамі. Дзьве-тры шрапнэльныя аблачынкі расцьвілі па-над вёскай. Адразу потым раструшчыла гарматным набоем касьцельны звон. Цалялі ў званіцу, маючы на ўвазе кулямёт. Выбух раскалоў звонна навакольле. Птушынай хвалькай вылящелі шыбы ў плябані. Ксёндз на час амаль аглух.

Уланы пакінулі вёску яшчэ ноччу.

Ліпень 20-га.

У тэлеграфнай зводцы рэўсавету 16-й арміі з Ваўкавыскага павятовага рэўкаму паведамлялі: «Насельніцтва павету з нецярплівасьцю чакала прыходу савецкай улады. Сустрэча была захапляючай. Насельніцтва ідзе насустрач усім патрабаваньням савецкай улады». Адказ быў ляканічным: «Так дзержаць!».

Чырвоная кавалерыя пад загадам легэндарнага Гаю віхурай наляцела, пашкамутала польскае войска, умкнула далей на захад.

У вёсцы з пацярпелай званіцай, у Плябанцах, застаўся за савецкую ўладу чырвонаармеец 1-га пралятарскага Пэтраградскага палку Іван Шубін. Патомны піцерскі работнік, ліцейшчык. Пад рэўкам была зрэквізавана палова плябані. Іншай больш прыдатнай пабудовы вёска ня мела.

Свае дзеяньні ён пачаў з таго, што па-над уваходам прышпіліў чырвоны лёзунг: «Да здаўствует савецкая ўласьць!». Што рабіць далей, ён ня ведаў. Як агітаваць за савецкую ўладу, ня знаў. У атацы, на кані ўсё яму было ясна. Хапай з похваў шаблю ды сячы. Не пасьпееш — цябе засякуць. І ён пасьпяваў. Пляжыў ненавісных белапалякаў, каб памяталі ягоную піцерскую, Івана Шубіна, руку.

Пакінулі тутака яго выпадкова. У апошнюю хвілю, калі ўжо коньніца вылятала за ваколіцу, ён трапіў на вока кампалка Ярцаву. Той круціў каня на мейсцы, нешта ліхаманкава кемячы. «Шубін! — абрадаваўся ён.— Астаёшся тут крэпіць савецкую ўласьць. Ты мужык граматны, справішся. Палучы ў камісара кумач».

Вось і апынуўся Шубін з канём Камунарам, шабляй, стрэльбай ды тузінам сушаніц у заплечным мяшку. І будуй сабе тутака, сярод малазразумелых чужынцаў, сваю ўладу. Аўса каню няма. Добра хоць лужок ёсьць, дзе пасьвіць. Не было чаго есьці самому. І купіць няма на што. Нават невядома, якія грошы мясцовыя бяруць: царскія, польскія ці рабоча-сялянскія. Ды што гадаць. Усё адно за так ніхто ня дасьць. Гэта ня Расія-матухна. Ды Шубін і баяўся прасіць, бо скажуць: савецкая ўлада пачынае з таго, што хлеба просіць.

Праз тры дні з воласьці прыехаў старшыня вайсковага рэўкаму. Пазнаёміліся. Пакінуў яшчэ кумачу. Зьдзівіўся: «Ты што, Шубін, толькі радзіўся? Хлеб рэквізіраваць нужна, ні паміраць жэ цібе. Што там пару буханак. Дом жэ рэквізіраваў. На дзела рівалюцыі,— аб´ясні мужыкам.— Ні паслушают — сілком. Ні мне цібя учыць».

Шубін пражыў у Плябанцах колькі часу. Людзі дзіваваліся з яго. Гаворыць па-расейску й паводзіцца ня як усе. У касьцёле шапкі ня здымае й мовіць штосьці бязглуздае: «Таварышы трудзяшчыяся жэншчыны, бога нет. Поп экс-плу-а-ці-ру-ет вас, абманам адбірает пасдедній, потам і кроўю дабыты грош. Рэлігія ваабшчэ, па меткаму выражэньню таварышча Маркса, опіум для народа». А ўся рэч у тым, што жывучы на падворку ля касьцёлу, Шубін і намысьліў сьпярша зьвярнуць пільную ўвагу на антырэлігійную прапаганду.

Ксёндз надта бедаваў за звон, ня стала як клікаць парафіянаў да ютрані і ўсякага набажэнства.

Настаў дзень, калі разьбітае пад Варшавай чырвонае войска мусіла ўцякаць. Так здарылася, што адступаючыя часткі абмінулі Плябанцы. Пакідаць жа сваю пасаду без загаду Шубін ня мог.

Адной раніцы ў шыбу рэўкаму застукацеў сын вясковага жабрака Адаська: «Дзядзька чырвонаармеец! У вёсцы легіянэры...» Шубін па-салдацку хутка абкруціў лыткі анучамі, зашпіліў дзягу, схапіў пад пахі шаблю й сядло. Расчыніў дзверы й выбег на ганак. Тамака яго стрэлі польскія кулі...

Ад таго здарэньня мінула багата часу. Цяпер у Плябанцах сядзіба калгасу. Двухпавярховае праўленьне. Магазын. Піўбар. А ад касьцёлу засталіся адныя падмуркі. Людзі зараз у клюб ходзяць. На танцы.

А на вясковым пляцыку, паміж канторай і касьцёлам, стаіць бюст Чапая ў кучомцы, імем якога названы мясцовы калгас. Пра Шубіна ж нейк і ня ўспомнілі, бо нават прозьвішча ягонага ніхто ня ведаў. Адзіную ў вёсцы вуліцу назвалі таксама Чапаяўскай.

**14 кастрычніка 1984 г.**



 



# *АСОБА І ПАЛІТЫКА*

## Тры зьезды дысідэнтаў

**Дзякуючы намаганьням акадэміка Андрэя Сахарава, ў Маскве летам 1977 года быў праведзены першы ўсесаюзны зьезд дысідэнтаў, які арганізатары назвалі Днём правоў чалавека. Няшмат праўдзівай інфармацыі даведаліся людзі за гэтыя 16 год пасьля зьезду, але мы адшукалі аднаго з тых удзельнікаў зьезду, якога ворганы КДБ ня выкінулі за межы былога СССР. Сёньня жыхар Горадні выкладчык музыкі В. К. Радыёнаў дзеліцца сваімі ўспамінамі.**

... Сказаць шчыра, гэта ня была разрэклямаваная акцыя. Наадварот, усё праходзіла па законах жорсткай канспірацыі, што дазволіла без перашкод з боку КДБ выканаць шэраг арганізацыйных пастаноў, дзякуючы якім уся акцыя прайшла ў поўным аб 'ёме.

Наша дэлегацыя плянавалася з чатырох чалавек, але на беларускім вакзале Масквы мы апынуліся з менскай кампазітаркай Валяньцінай Сярых. Тут нас сустрэў сьвятар Дудко й адвёз на канспіратыўную кватэру. Гэта была звычайная трохпакаёвая хрушчоўка, у якой, як я потым здагадаўся, быў штаб зьезду. Побач са мной сядзеў лекар з Алтаю, усяго было трыццаць чалавек. Пазнаёміліся. Пры знаёмстве ўразіла тое, што фактычна дэлегаты прадстаўлялі ўсю тэрыторыю ад Буга да Курыл.

Рэй вёў спадар А. Агароднікаў, які падрабязна пазнаёміў прысутных з вынікамі працы маскоўскай Хэльсінскай групы па назіраньню за парушэньнямі правоў чалавека. Далей ён распавёў пра асуджаных за праваахоўную дзейнасьць, іх колькасьць дасягала некалькі тысяч. Усе яны былі пазбаўлены элемэнтарных правоў асуджанага: для іх была забаронена перапіска, атрыманьне паштовак, сустрэчы з роднымі, а часам нават і прагулкі. Далей назваў гэтыя захады гэнацыдам супраць іншадумцаў, грунтуючы свае высновы на тым, што ў знак пратэсту палітычныя вязьні нярэдка аб 'яўляюць галадоўкі, чым хуценька карыстаецца ахова турмы, знаходзячы ў сваім турэмным кодэксе пастановы, пункты, каб узьдзейнічаць на вязьня шляхам разнастайных забаронаў, нават павелічэньнем тэрміну зьняволеньня.

Пасьля дакладу спадара Агароднікава мы пачалі рыхтаваць рэзалюцыю. Але раптам у кватэру пазванілі, гаспадар адчыніў: увайшло некалькі чалавек у цывільным. Яны ціха пастаялі, а потым хуценька заблякавалі дзьверы й, дастаўшы пасьведчаньні супрацоўнікаў КДБ, аб 'явілі, што ўсе затрыманы. Нас вывялі на вуліцу, дзе ўжо чакалі чорныя «волгі», і павезьлі на Пятроўку. Там пасадзілі ўсіх у нейкі цёмны без вокнаў пакой. Праз хвілін дзесяць пакой аж дрыжэў ад рэлігійных песень. Высока пад стольлю запалілася лямпачка. Да нас увайшоў ідэёлаг цэка й пачаў выхоўваць, а ў адказ на гэта мы толькі гучней сьпявалі. Зразумеўшы, што з намі яму не знайсьці агульнай мовы, ідэёлаг выйшаў.

Праз нейкі час пачаліся допыты. Мяне выклікалі, распыталі адкуль, пачалі палохаць, а потым напрамкі прапанавалі супрацоўніцтва. Я адмовіўся. Трымалі нас на Пятроўцы з 12 гадзін дня аж да вечара. Каля Пятроўкі нас сустракалі свае, частавалі гарачай гарбатай, кавай, давалі бутэрброды. Затым мяне й яшчэ некалькіх сяброў узяў на ноч маскоўскі калега. Раніцой цішком разам з гаспадаром, каб ня выклікаць увагі, прыехалі на іншую кватэру. Тут працягвалі працу далей, абмяркоўвалі варыянты супрацоўніцтва, распаўсюджваньня дысідэнцкай літаратуры, вышуквалі магчымасьці яе памнажэньня.

Раніцой наступнага, ужо трэйцяга дня нашай працы, ўдзельнікі зьезду паехалі ў нейкі падмаскоўны сабор, дзе адбылося набажэнства, на якім прысутнічалі ўсе лідэры апазыцыйнага руху. Мяне непакоіла пытаньне, чаму КДБ не перашкаджае вось ужо другі дзень працаваць зьезду. Зьвярнуўся да сьвятара Дудко й даведаўся вось што: калі рыхтаваўся зьезд, яго арганізацыйны камітэт прадугледзіў амаль усе магчымыя хітрыкі КДБ. Таму, каб ахоўка не змагла яго разагнаць, было вырашана распачаць зьезд на некалькіх кватэрах. Адну групу ўзначаліў Агароднікаў, другую — А. Сахараў, трэйцюю — Дудко й г. д. Калі нас першых арыштавалі, група Андрэя Сахарава выйшла на дэманстрацыю пратэсту, пачала тэлефанаваць у пасольствы ЗША, Вялікабрытаніі, нават дазваніліся да ААН. Дзякуючы своечасовым захадам акадэміка Сахарава, яго міжнароднаму аўтарытэту, у Крэмль пасыпаліся званкі з многіх міжнародных гуманітарных арганізацый і амбасад. Відаць, КДБ пад гэтым ціскам спыніў сваю акцыю й болей нам не перашкаджаў, а проста назіраў з боку. Дысідэнцкі рух — гэта барацьба, умелая, няроўная барацьба творчай супольнасьці, інтэлектуалаў, проста людзей, якія жадалі быць вольнымі.

Праз некалькі месяцаў пасьля зьезду мяне звольнілі з працы. Я працаваў тады выкладчыкам у музычнай вучэльні. Зрабілі надзвычай нетыпова. Раніцой мяне на працу выклікаў дырэктар. Калі я прыйшоў, у дырэктарскім габінэце сядзелі двое незнаёмых, якія дасталі паперы, дзе былі занатаваны мае прыгоды ў Маскве. Праз гадзіну я быў звольнены, але яшчэ ня раз езьдзіў да Масквы, удзельнічаў і ў наступным зьезьдзе, на якім, дарэчы, адбыўся раскол. Зараз, калі праз пэўны час аналізую вынікі расколу, прыходжу да высновы, што гэта атрымалася таму, што ў руху было шмат накірункаў. Фактычна пераблыталася ўсё ў ім амаль усё: і рэлігія, і атэізм, і прагрэсіўная думка. Яны не маглі існаваць побач, бо выключалі адна другую.

**Г. ЛІСТАПАДЗКІ.**

Рэфлексіі

## Беларусь, мая старонка...

На мінулым тыдні заязджаў да мяне сваяк з Пецярбургу. Дагэтуль ён гасьцяваў у сваёй маці на Гарадзеншчыне.

Ляжаў цэлую гадзіну на маёй канапе, глядзеў у столь і аб нечым сумна думаў. Урэшце, калі селі палуднаваць, падзяліўся за мною сваімі турботамі: недзе там за тысячу кіламетраў, у Расеі, дзе зараз жыць значна цяжэй, чым у нас, падсьвядома цепліцца надзея, што жыве хоць Беларусь, такая далёкая і родная, зусім адрозная ад Расеі. Прыемна нават тое, калі прыязджаюць людзі з Беларусі і распавядаюць, што там папросту ёсьць малако, мяса, танны хлеб, што там не страляюць, не мітынгуюць, а працуюць.

А зараз... зараз пабыў сам і пабачыў...

З райцэнтра да вёскі не дабрацца. Аўтобусы ня ходзяць, хіба ўжо цэлы год. Крама працуе толькі ў тыя дні, калі завозяць хлеб. Паўсюдна ў вёсцы стаяць і гніюць адзінокія хаты. Няма нават аніводнага каня, а хутка садзіць бульбу.

Пайшоў за тры кіламетры ў суседнюю вёску, каб купіць для маці ў краме грэчку: на рукі па чатыры кілаграмы. Дабіраўся пешкі разам з тутэйшымі пэнсіянерам. Выкупілі ўрэшце, прынесьлі, намучыліся, а ўвечары на машыне прыехала прадаўшчыца, забірае назад гэтую грэчку і вяртае грошы. Затэлефанавалі з райцэнтра: кажуць, памыліліся, ні туды накіравалі...

МЫ — РАЗАНСКІЯ

Самыя першыя дні вясны выдаліся цёплыя, зьявілася надзея, што хоць надвор 'е неяк падтрымае дух. Да зарплаты яшчэ больш чым тыдзень, а грошы ўжо скончыліся.

У прывакзальнай краме не адпускаюць прадуктаў без пашпартоў. Побач з прылаўкам адна жанчына сьлёзна просіць прадаць хоць два дзесяткі яек і працягвае расейскія грошы. Спрабую яшчэ раз пасьля прадаўшчыцы тлумачыць, што ў нас за гэтыя рублі ўжо не прадаюць. Ізноў сьлёзы,— а як жа быць, што рабіць, калі толькі дзеля харчоў прыехала.

А ехала, дарэчы, аж з Латвіі, дзе значна ўсё даражэй, дзе на працы скарацілі, таму што не валодае мовай, а вучыць ня хоча. Ехаць адтуль ня ведае куды, бо нарадзілася ў Рызе, хоць бацькі самі з Разані.

**М. М.**

## Кіраўнічы каапэратыў

Няблагое выйсьце для падвышкі свайго заробку знайшло кіраўніцтва другой стаматалагічнай паліклінікі Горадні. Нядаўна тут быў створаны каапэратыў для аказаньня разнастайных платных паслуг, у штат якога ўвайшлі тры загадчыкі аддзяленьняў, галоўная мэдыцынская сястра й сам загадчык паліклінікі.

**(УЛАСН. ІНФ.)**

● *Пошта*

## 25 сакавіка ў Наваградку

25 сакавіка 1993 года ўпершыню на памяці ўсіх навагрудчан ладзілася ўрачыстасьць, прысьвечаная 75-м угодкам абвяшчэньня БНР. Вечарына адбылася ў ГДК а 19-й гадзіне. Сабраліся гараджане самых розных узростаў, праўда, толькі тыя, хто ведаў аб гэтым з аб 'яў, расклееных па гораду.

Мясцовае радыё й раённая газэта «Новае жыццё» не паведамілі сваім чытачам і слухачам аб маючай адбыцца вечарыне. Наадварот, мясцовае радыё (дырэктар Марыя Вараўжанская) перад вечарынай нагадала тутэйшым камуністам, каб зьбіралі складкі. На іх думку, гэта больш карысная й злабадзённая тэма, чым ушанаваньне памяці беларускай гісторыі.

На вечарыне адсутнічалі прадстаўнікі гарадзкіх і раённых уладаў (гэта ў асноўным былы партыйны камсастаў). Ня было сярод прысутных і ініцыятараў рэанімацыі ПКБ-КПБ. У іх свой погляд на гісторыю Беларусі, хоць заўсёды любяць зазначыць, што яны за кансалідацыю, плюралізм, кампраміс... На справе, як паказвае жыцьцё, гэта злосныя ворагі ўсяго новага, дэмакратычнага й беларускага.

Аднак, нягледзячы на поўнае ігнараваньне кіраўніцтвам горада й раёна гэтай гістарычнай даты, вечарына адбылася. Уступнае слова браў намесьнік старшыні Рады БНФ Валеры Стома. Кароткі гістарычны агляд утварэньня БНР зрабіў дырэктар Ваўковіцкай СШ Васіль Шэдзь, намесьнік старшыні ТБМ.

Урэшце адбыўся канцэрт мастацкай самадзейнасьці вучняў і настаўнікаў Ваўковіцкай СШ. Гучалі вершы й песьні роднай Беларусі, такія блізкія й любыя.

А гэта сьведчыць аб тым, што гістарычную падзею можна замоўчаць, праігнараваць, але выкрэсьліць немагчыма.

**А. ПЯТРЫКА.**

## Гандлёвы вакзал

Калі служба інфармацыі чыгуначнага вакзалу Горадні аб 'явіла пасадку на цягнік Горадня — Масква, спачатку на беларускай мове, а потым прадублявала на расейскай, да цягніка пачалі сьпяшаць пасажыры. Праз нейкую хвіліну сьледам за пасажырамі няроўным шыхтом пакрочылі людзі з бутэлькамі піва, малака, слоікамі сьмятаны, шынкай і г. д. Яны бойка акупавалі вагоны і, не саромеючыся амаль нікога, прапанавалі свой тавар пасажырам. Большасьць ад 'язджаючых ахвотна набывала па некалькі бутэлек малака, сьмятану, шынку. Піва разыходзілася ня так хутка. Папрацаваўшы такім чынам 5—7 хвілін, незвычайныя гандляры пакідалі цягнік і з выручкай у руках перамешваліся з натоўпам.

Праз якую-небудзь гадзіну пасьля маскоўскага цягніка да пэрону падыйшоў цягнік з Польшчы, і ўсё зноўку паўтарылася. Насустрач прыезным выйшла шмат тых, хто быццам бы сустракае сваіх родных ці блізкіх. Але калі ўважліва прыслухаешся да дыялогу паміж тымі, хто прыехаў, і тымі, хто сустракаў, пачуеш такое, што зьдзівіць самых абыякавых. Прама на пэроне «сустракаючыя» прапануюць прадаць ім лішні тавар. Пры гэтым яны тлумачаць, што даюць добрую цану, і што на торжышчы наўрад ці хто яшчэ купіць гэты тавар за такі кошт. Даверлівыя турысты раскрываюць свае валізы, прадаюць спэкулянтам тое-сёе й працягваюць далей свой шлях. Але ёсьць і такія, хто прама з рук у рукі перадае цяжкія кайстры, атрымлівае грошы й адразу ж ад 'язджае назад да дому.

Ведаю, што дасьціпны чытач усьміхнецца й запярэчыць: маўляў, што ў гэтым дзіўнага, трэба ж неяк людзям жыць. Яно сапраўды так, але апошнім часам чыгуначны вакзал Горадніператвараецца ў торжышча, а тым часам звычайных прадуктаў, здараецца, у горадзе не купіць. А чыгуначны вакзал зьяўляецца адным з самых крымінагенных месцаў горада.

**Г. ВАСІЛЕВІЧ.**

 





# ВІЛЕНШЧЫНА

## Балтыйскія паведамленьні

**ПРЭСА.** Як паведаміла летувіская прэса, у другім паўгоддзі ўступіць у сілу дамова паміж поштамі Летувы й Беларусі, паводле якой летувіскую пэрыёдыку можна будзе выпісваць на Беларусі, а беларускую — у Летуве. Выходзіць, пакуль палітыкі яшчэ толькі ўзводзяць мяжу паміж двума народамі, сувязісты ўжо пачынаюць гэтую мяжу разбураць.

**ДАПАМОГА.** У часе візіту ў Вільню прадстаўнік ураду Польшчы Ян Марыя Ракіта гаварыў пра будаўніцтва яшчэ адной польскай школы ў новым раёне горада, пра стварэньне настаўніцкага калегіума, які будзе рыхтаваць выкладчыкаў замежных моваў для польскіх школаў у Летуве, пра дапамогу мясцовай польскай радыёстанцыі... Урад Польшчы шчодра фінансуе й будзе фінансаваць любую ініцыятыву ў інтарэсах палякаў у Летуве й польска-летувіскіх сувязяў... Гэта чарговае ў шэрагу падобных паведамленьне 60 тысяч беларусаў Віленшчыны праглынулі, як чарговую гіркую пілюлю. Рэч у тым, што беларуская супольнасьць, якая сваімі сіламі ледзь дамаглася адкрыцьця сёлета ў Вільні адзінае беларускае клясы, ня можа й марыць пра такую дапамогу з боку Рэспублікі Беларусь.

**ШАРЛАТАНЫ.** «Ня верце шарлатанам!» — заклікаюць сродкі масавай інфармацыі Летувы. Апошнім часам у рэспубліцы зьявілася вялікая колькасьць прыбышоў з Расеі, Украіны ды яшчэ больш далёкіх краінаў СНД. Гэта гастралёры-экстрасэнсы, масажысты-мануалісты ды іншыя шарлатаны. Яны чытаюць лекцыі, праводзяць курсы парапсіхалёгіі, біяэнэргэтыкі, прапануюць вылечыць ад усіх хваробаў. Словам, рознымі спосабамі выцягваюць грошы з легкаверных людзей. Саюз Лекараў і Летувіскае Таварыства Традыцыйнай Народнай Мэдыцыны увесь час б'юць трывогу, апэлююць да Міністэрства Здароўя й Сойму. А тым часам па летувіскай тэлевізіі транслюецца гутарка з «цудатворцам» з «блізкае замяжы», які ўмее выганяць з чалавека д'ябла, падаецца тэлефон, запрашаюцца ўсе ахвотныя...

**БАЛТЫЯ.** Прэм'ер Эстоніі Март Лаар заявіў, што «эканамічная палітыка Летувы зробіць непэрспэктыўным заключэньне сумесных дамоваў паміж Балтыйскімі дзяржавамі. Урад Эстоніі пераходзіць ад трохбаковых перамоваў да двухбаковых пагадненьняў». «Нашы эканамічныя зносіны ўскладняюцца тым, што ў адной дзяржаве пераважаюць рынкавыя элемэнты, а ў другой — элемэнты дзяржаўнай эканомікі»,— сказаў журналістам загадчык аддзела зьнешнеэканамічных сувязяў МЗС Эстоніі П. Колбрэ. Прэс-сакратар МЗС Эстоніі У. Рэйтэльман заўважыў, што ў Эстоніі выклікаюць трывогу тэндэнцыі поўнага датаваньня сельскай гаспадаркі Летувы, прыпыненьне прыватызацыі й г. д.

**ТЭЛЕФОН.** Пасьля доўгага перапынку ў Летуве зноў будзе працаваць спэцыяльная служба — моўныя парады па тэлефоне. Некалі гэтая служба была створана Таварыствам Летувіскае Мовы й карысталася вялікай папулярнасьцю. Тэлефанавалі людзі розных прафэсій, якія мелі сумневы наконт слушнага напісаньня таго ці іншага слова. Званілі таксама вучні, у якіх былі праблемы з хатнім заданьнем па летувіскай граматыцы. Кансультацыі перапыніліся па тэхнічных прычынах. З сярэдзіны красавіка яны будуць узноўлены па віленскім тэлефоне 63-27-28 з 15.00 да 17.00. Тэлефонная дапамога па-ранейшаму будзе бясплатная.

**ТЭРОР.** Апошнім часам усё больш гаворыцца пра хвалю злачыннасьці, якая пагражае Усходняй Эўропе. У Швэцыі адбыўся сэмінар па гэтую тэму. Колькасьць забойстваў у цяперашняй Расеі нашмат вышэйшая, чым, напрыклад, у ЗША. Рознага роду мафіі разгаліноўваюцца па Расеі ў пагрозьлівым тэмпе, але яшчэ не пагражаюць Швэцыі. Да такіх высноваў прыйшоў А. Даніэльсан, намесьнік шэфа швэдзкай паліцыі. У сваім рапарце шэфу паліцыі ён кажа, што ў Расеі штогод адбываецца 20 тысяч забойстваў. У самой Маскве летась 804 асобы былі пазбаўлены жыцьця. Аднак лік забойстваў найвышэйшы ў Эстоніі. Статыстычна гэта выглядае так: калі ў Расеі на 100 тыс. насельніцтва адбываецца 13,6 забойстваў, дык у Эстоніі — 16,9 (у ЗША — 9,8, у Швэцыі — 1,15).

На гэта яшчэ адзін удзельнік сэмінару міністар абароны Эстоніі паведаміў, што, на яго думку, гэта вынік таго, што большасьць злачынстваў у яго краіне зьдзяйсьняюць, на жаль, расейцы. Ён таксама сказаў, што заўсёды ходзіць узброены, бо гвалты й напады ў сёньняшняй Эстоніі — звычайная зьява.

Паводле расейскіх крыніцаў, у Расеі існуе ад 2,5 да 3 тысяч рознага роду мафіёзных арганізацый.

Асобна на сэмінары гаварылася пра аснашчанасьць праваахоўных органаў і месцаў зьняволеньня ў посткамуністычных краінах.

**На падставе паведамленьняў СМІ падрыхтаваў А. К.**

## «Наша Ніва» — беларуская газэта з Вільні

За апошнія 70 гадоў беларусы як нацыя больш страцілі, чым набылі. А страты нацыянальнае сьвядомасьці — фатальныя, нікому, апроч гэтай нацыі, непатрэбныя. Бывае так, што й сама нацыя ўжо не вяртаецца да страчанага — альбо яно састарэла, альбо на мапе сьвету ўжо няма такой нацыі. На шчасьце, сказанае не датычыць беларускай газэты «Наша Ніва», якая выходзіла ў Вільні ў пачатку XX ст. Яе выданьне ўзноўленае вясной 1991 году.

Гаворачы пра страты й параўноўваючы нацыянальную сьвядомасьць беларусаў пачатку стагоддзя з сёньняшняй, даводзіцца адзначаць прымітывізацыю ўсяго нацыянальнага жыцьця, падпарадкаваньне яго ідэялягічным пастулатам, амаль поўную русіфікацыю, комплекс нацыянальнае недавартасьці. «Нацыянальная па форме й сацыялістычная па зьмесьце» буларуская культура цалкам будавалася на падставе традыцыйнага расейскага сьветапогляду...

Думаю, што ў вас ня ўзьнікла сумневу ў праўдзівасьці гэтых словаў. Але калі я скажу, што ў пачатку стагоддзя (1906—1915) 12-мільённая беларуская нацыя выглядала зусім ня так прымітыўна, а яе ідэйлагі цалкам усьвядомлена пісалі пра экзістэнцыялізм і філязофію свабоды (Ігнат Канчэўскі); калі я скажу, што ў тыя гады беларусы на поўную хаду ішлі да незалежнасьці й цьвяроза глядзелі на імпэрскі міф пра Кіеўскую Русь і ўсходнеславянскае адзінства, добра ўяўляючы сабе самакаштоўнасьць уласнае мовы й гістарычнага досьведу: калі я скажу, нарэшце, што ўсё сказанае знайшло сваё адлюстраваньне на старонках газэты «Наша Ніва»,— вы можаце не паверыць мне і наўрад ці пойдзеце ў бібліятэку, каб гартаць зжаўцелыя старонкі. Ёсьць, бадай, толькі адзін спосаб пераканаць вас — узнавіць выданьне.

Сёньня ўзноўленую «Нашу Ніву» можна набыць у любым газэтным шапіку на Беларусі, а ў любым аддзяленьні сувязі можна аформіць на яе падпіску (індэкс 63125). Цяпер вам застаецца толькі атрымаць газэту, а мне — сказаць некалькі словаў пра адрозненьні старой «НН» і новай.

ЗАДАЧЫ. Калі ў 1906 годзе браты Луцкевічы і А. Уласаў пачыналі выдаваць агульнанацыянальную беларускую газэту памяркоўнага накірунку, яны, магчыма, і ня думалі, што роля «НН» акажацца нашмат большаю, чым можа быць роля газэты. За дзесяць гадоў выданьне, у якім супрацоўнічалі ўсе беларускія аўтары — сёньняшнія клясыкі, адрадзіла нацыянальнае жыцьцё (школу, царкву, музэй, літаратуру, журналістыку, аб'яднаньні эканамічнага й палітычнага характару). Сёньня задача «НН» выглядае не настолькі маштабна і, можа быць, больш канкрэтна. Аб'яднаць творчыя сілы Беларусі, што не дэфармаваныя савецкай ідэялогіяй, і стварыць своеасаблівы культурны тыл нацыі на выпадкі магчымай яшчэ больш жорсткай дэнацыяналізацыі ці прымітыўнай папулізацыі нацыянальнае культуры на Беларусі.

МЕСЦА. Дзеля такой задачы Вільня — традыцыйны для беларусаў духоўны цэнтар з ягонаю сёньняшяй уладай, якая дэкляруе прыярытэт правам чалавека — найбольш дапасоўнае месца. У старой рэдакцыі ў горадзе было некалькі адрасоў. Сёньняшняя рэдакцыя пасьля рамонту разьмясьцілася ў аднапавярховым дамку на вуліцы Жыгімонта 12/2, каля Зялёнага Мосту.

ЗЬМЕСТ. Старая «НН» была штотыднёвікам, новая — штомесячнік. У ёй менш апэратыўнае інфармацыі, яе зьмест нагадвае зьмест часопіса. Тут шмат мастацкае літаратуры як арыгінальнай, так і перакладной. Проза Х. Л. Борхэса, проза й вершы А. Э. По (рэдакцыя мяркуе выдрукаваць поўныя зборы твораў гэтых аўтараў. Дж. Д. Сэлінджэра, Н. Сарот, Ф. Тугласа, Ш. Андэрсана, Л. Дарэла, А. Камю, вершы Б. Лесьмена (у рэдакцыі падрыхтаваная да выданьня кніга гэтага польскага паэта ў перакладах Алега Мінкіна — першая кніга ў задуманай «Бібліятэцы» «НН»), Т. Венцлавы, Г. Апалінэра, Л. Стафа ды іншых. Прычым усе пераклады зроблены ўпершыню і тут, у Вільні.

Сталае месца ў газэце адведзенае гісторыі й культуралёгіі. Напрыклад, мы друкуем усе новыя эсэ Ч. Мілаша, якія зьяўляюцца ў парыскай Kultur'ы і прысвечаныя мінуўшчыне й спэцыфіцы Віленшчыны. Наогул, летувіска-польска-беларускія ўзаемапранікненьні — гэта наша тэма.

Вядома, што нацыя, як і чалавек, пазнае сябе ў параўнаньні з іншымі. Таму з нумару ў нумар мы друкуем нататкі нашых аўтараў, якія вярнуліся з Вугоршчыны, Абхазіі, Даніі, Нямеччыны, Расеі, Латвіі ды іншых краінаў.

Віленскі краязнаўца Лявон Луцкевіч піша пра мясьціны горада, зьвязаныя з беларускай гісторыяй. Спэцыфіка інфармацыйнага жанру ў «НН» у тым, што інфармацыя каштоўная для нас толькі ў форме асабістай рэфлексіі аўтара. Таму ў газэце амаль няма чыстых фактаў і камэнтарыяў, але шмат лістоў, дзёньнікавых запісаў і падобнага. З беларускай гісторыі мы абралі тэму сярэднявечнае агрэсіі Масквы й тэму апошняй вайны. Першая на Беларусі толькі пачынае раскрывацца, другая — у праўдзівым сьвятле — таксама.

Ёсьць у «НН» паліталёгія, сацыялёгія, эканамічны аналіз,— словам, ёсьць усё. Няма ніякіх абмежаваньняў ані ў тэмах, ані ў жанрах, ані ў пазіцыях. Адзіны крытэрый — асоба аўтара і тое, наколькі поўна яна выражана.

«НН» — газэта некамэрцыйная і выдаецца на ахвяраваньні сваіх чытачоў. Адгэтуль рэдкая пэрыядычнасьць і даволі няясная будучыня. Магчыма, без сур'ёзных датацый ўжо у хуткім часе мы будзем страчваць у аб'ёме і ў тыражы. Зрэшты, пэсімізм ад пачатку выключаны з задумы выданьня,— пазітыўнага й сцвярджальнага. Жыцьцё — гэта тое, што вышэй за лёзунгі і скаргі.

**Сяргей ДУБАВЕЦ.**

## Эдмунд-франьцішканін

У час пастоў у гойбіта з польскага горада Легніца Эдмуна-франьцішканіна на целе крываваць Раны Хрыстовыя (т. зв. стыгмы)... Гэты чалавек — вядомы ва ўсёй Эўропе гойбіт, трыццаць гадоў нясе свой крыж, трыццаць гадоў лечыць людзей шквалам чыстай жыцьцятворнай энэргіі, абуджаючы яе Божым словам. Дзяцінства яго прайшло на Гарадзеншчыне. З самага маленства, якое выпала на часы разгулу й цемрашальства, падсьвядомасьць вяла яго да выкананьня Божай Місіі. Часта здаралася ў той час, калі выпасвалі скаціну на балотах, што каго-небудзь кусала вужака. Асабліва перад вайною яны быццам ашалелі. І будучы гойнік сам выклікаўся, каб высасваць яд з ранаў пацярпеўшых. Аднойчы гэта зрабіў нехта іншы, такі самы, як і ён, хлапчук, і загінуў. Пасьля таго выпадку, калі штосьці-небудзь здаралася, беглі толькі да яго. Магчыма, ужо тады ён валодаў цудадзейнай уласьцівасьцю гойніка, бо ўсе, хто зьвяртаўся да яго за дапамогай, заставаліся жыць.

Сёньня зьдзівіць спакусьлівага чалавека вельмі няпроста: НЛА, палтэргэйст, экстрасэнсы, астролагі — пасьпявай толькі лыпаць вачыма ды ківаць памутнеўшаю галавою, калі сядзіш каля тэлевізара. Але ж бываюць дзівосы, якія здараюцца вельмі рэдка. Гэта зьявы сьвету вялікіх прарокаў, сьвятых, геніяў — Пасланцаў Божых. Адзін з іх — Эдмун-франьцішканін.

Цалебны эфэкт Эдмуна-франьцішканіна фантастычны — некалькі тысячаў людзей, якіх ён вылячыў за доўгія тры дзесяцігоддзі. Нямала сярод выратаваных і тых, хто, на думку сучаснай мэдыцыны, быў асуджаны на тое, што ніколі не вылячыцца. Аднак самы значны эфэкт яго сьвятой дзейнасьці — гэта вяртаньне ім ня толькі цялеснага здароўя, але й душэўнай раўнавагі й пакою, а таксама веры.

Эдмун-франьцішканін — каталік, і іерархі Сьвятога Касьцёлу з рэўнасьцю сочаць за яго зямнымі подзьвігамі. Вядзецца летапіс яго дзеяньняў і апісаньне стасункаў з сьветам тонкім... Надыдзе час, і жыцьцё Эдмуна-франьцішканіна будзе абнародавана, а таму мэта гэтага друкаванага слова аб ім болей чым сьціплая: нагадаць землякам, што існуе прарок у сваёй Айчызьне.

Эдмун-франьцішканін — сапраўдны каталік, аднак каталіцкі малебен яго вылечвае й праваслаўных, і мусульманаў, і іудзеяў... Гэаграфія яго зямнога шляху ў СНД дастаткова шырокая: Горадня, Смаленск, Масква, Кіеў... На Радзіму ў чарговы раз намерваецца прыехаць пасьля пятнаццатага красавіка. Эдмун-франьцішканін не практыкуе масавых сеансаў і ўзьдзейнічае на кожную пакутную душу індывідуальна. Як правіла, ён практыкуе ў прыватных кватэрах, дзе жывуць тыя людзі, каго ён у свой час некалі паставіў на ногі. Праўда, гэтым разам ён пагадзіўся прыняць хворых у адным з памяшканьняў Дома культуры глуханямых. Але тым, хто пажадае зьвярнуцца за дапамогай да гойніка, абавязкова трэба ведаць: Эдмун-франьцішканін — не Бог, і хваробы, якія справакаваны цяжкім грахом, не заўсёды ім вылечваюцца. У такім выпадку найперш патрэбна пакаяньне...

**Вячаслаў Б.**



# ХАТНІЯ ГУТАРКІ

## Хто твой вампір?

**ПАВЕТРА**

**(Працяг. Пачатак у № 8).**

**(Блізьняты, Воднік, Шалі)**

Паветра, відаць, можна назваць самым удалым знакам у гараскопе. Справа ў тым, што чалавек, які валодае псіхафізіялагічнымі асаблівасьцямі сангвініка, як правіла, лёгка спраўляецца са зьнешнімі аб 'ектыўнымі цяжкасьцямі й ўнутранымі нягодамі. Ён актыўны, дынамічны, здольны хутка перабудоўвацца, пераключаць увагу, пазбаўлены многіх устойлівых стэрэатыпаў, якія ўплываюць на ўсе іншыя знакі гараскопу. Жыцьцё яго адрозьніваецца ад укладаў Зямлі, Вады й Агню, бо фізіялагічныя працэсы адбываюцца значна хутчэй, што вымагае шмат энэргіі. Агонь больш за ўсё падобны да Паветра, назапашвае жыцьцёвыя сілы як бы адразу, прычым часта болей энэргіі, чым яму патрэбна. Лішкі запасаў ня йдуць на карысьць, выклікаюць адмоўнае адчуваньне й дрэнны настрой. У адрозьненьні ад Агню Паветра не думае аб запасе, хоча жыць і жыве буднямі. Ён ня можа, як Агонь, за адзін раз спажыць порцыю энэргіі, роўную некалькім дням або сутачнаму спажываньню. Ён папросту згарае ад лішкаў сіл, стараецца паступова, на гадзіну-другую, схапіць тое-сёе карыснае з ежы (да 30%), з навакольнай прыроды (да 20%), з Космасу (да 10%), а астатняе выхапіць у сваіх сяброў і незнаёмых (да 35—40%). Паветра — вампір, але можа перабудаваць свой арганізм і не ўжываць людзкіх запасаў, карыстаючыся ўсім, што вакол яго. Праўда, такая перабудова можа выклікаць захворваньні, бо энэргія чалавека больш «смачная» й карысная, ды й здабываць яе значна прасьцей — у гутарках, пацалунках, палавых актах, і проста калі знаходзішся побач з ахвярамі.

Як правіла, Паветра вельмі кантактнае, яно можа з вамі размаўляць у аўтобусе, на вуліцы, у чарзе, можа папрасіць або прапанаваць цыгарэту, спытаць дакладны час і адразу працягваць размову. Праўда, Паветра з цяжкасьцю ўступае ў кантакт з чалавекам Зямлі. Ён можа 2—3 разы пачынаць размову, якая не цікавіць Зямлю. Актыўная Зямля (Бык 20.4—19. 5) лепш за іншых адчувае вампіра й стараецца яго адхіліць ад сябе. А вось сьнежаньская Зямля (Казярог 20.12—21. 01) або верасьнёўская (Панна 20.08—19. 09) вельмі даверлівы і з задавальненьнем слухае байкі «драпежніка».

Паветра, аднак, не кантактуе з людзьмі хворымі й вялымі — яму патрэбны здаровыя. Само Паветра можа губляць энэргію пры кантакце з больш магутным Агнём або больш халоднай Зямлёй. Для сангвініка, якім зьяўляецца Паветра, небясьпечна доўгі час знаходзіцца ў невялікім памяшканьні з людзьмі знака Агонь, асабліва актыўных яго прадстаўнікоў (20 ліпеня — 19 жніўня). Страціўшы энэргію, Паветра будзе шукаць донараў у іншых знакаў (Вада, Зямля) і гэтым папаўняе страты. Знайшоўшы ахвяр, Паветра рызыкуе захварэць: алергія, запаленьне лёгкіх, палавыя расстройствы. У цэлым зносіны Паветра з Агнём не такія небясьпечныя для іх, бо спажываемая энэргія і адным, і другім хутка выдаткоўцца на пакрыцьцё агульных фізічных стратаў, спосаба жыцьця гэтых знакаў.

Прадстаўнікі аднаго тыпу (Паветра) практычна не крадуць шмат жыцьцёвых сіл адзін у аднаго, адчуваючы цялесную й духоўную блізкасьць.

Падрыхтаваў
Аляксандр **КАНДРАШОЎ**.

## Якая сукенка вам пасуе?

*«Ці ёсьць у мяне густ, ці ёсьць свой стыль у адзеньні?» — гэта хвалюе, напэўна, кожную дзяўчыну. Але як аб гэтым даведацца? Вось некалькі пытаньняў з тэста, які прапанаваў сваім чытачкам балгарскі часопіс «Лада».*

**З трох магчымых адказаў на кожнае пытаньне выберыце адзін, потым падлічыце, якіх адказаў у вас больш — на літару а, б, ці в. Пад гэтай літарай ў канцы вы й прачытаеце погляд на сябе. Толькі, калі ласка, не ўспрымайце яго занадта сур 'ёзна: гэта жарт. Але й жарт можа падштурхнуць да карысных думак.**

**1. У цябе зьявілася магчымасьць цалкам замяніць свой гардэроб. Як ты гэта зробіш:**

а) выберу адзеньне толькі па апошняй модзе;

б) выберу тое, што мне больш за ўсё пасуе;

в) выберу такія рэчы, якія будуць пасаваць па колеры, якія можна аб 'яднаць у розных варыянтах у залежнасьці ад прызначэньня.



**2. Ці пасуе русавалосай дзяўчыне жоўты швэдар!**

а) не;

б) можа быць, калі правільна падабраць астатняе адзеньне — спадніцу, кофту, хустку на шыю;

в) магчыма й так, але калі ён ёсьць, то яго трэба насіць не раздумваючы.

**3. У вітрыне крамы вельмі прыгожая сукенка. Якая першая думка прыходзіць табе ў галаву!**

а) сукенка, мусіць, вельмі дарагая;

б) цікава, як я ў ёй буду выглядаць?

в) ці спадабаюся я ў ёй сваіму каханаму?

**4. У цябе дзень нараджэньня. Які падарунак узрадаваў бы цябе больш за ўсё!**

а) кветкі;

б) вельмі прыгожая рэч, усё роўна якая, абы прыгожая;

в) парфума альбо іншая касмэтыка.

**5. Бацькі падаравалі табе сукенку, якая, на жаль, ня вельмі табе падабаецца. Як ты да гэтага паставішся!**

а) павешу ў шафу, насіць ня буду;

б) падумаю, як яе перарабіць, каб яна лепш пасавала;

в) пайду ў краму й заменю на іншую.

**6. Ты хочаш перашыць свае старыя сукенкі, каб яны сталі моднымі. Але як ты вызначыш, што менавіта ў модзе!**

а) па тым, што носіць большасьць;

б) па часопісах модаў, па артыкулах аб модзе;

в) па ўбраньні сяброўкі, яна заўсёды добра апранута.

**7. Табе хочацца купіць парфуму. Як ты яе выбярэш!**

а) калі будуць грошы — выбяру найдаражэйшую, дарагая парфума заўсёды добрая;

б) куплю спачатку нешта на пробу. Не спадабаецца — ў наступны раз куплю іншыя. Думаю,— што так можна знайсьці свае духі.

в) з кім-небудзь параюся.

а. Табе варта быць больш сьмелай: кепска, калі адзеньне скоўвае чалавека, уплывае на яго рашэньні, настрой.

б. Ты ня толькі ідзеш у нагу з модай, але й добра ведаеш, што пасуе табе, а што не. Ты ўмееш выбіраць тыя рэчы й апранацца ў тым стылі, які адпавядае твайму тыпу. У цябе выдатны густ.

в. Добра, што ты такая практычная, але ці не занадта прыслухоўваешся да думкі іншых.

Падрыхтаваў
Аляксандр **КАНДРАШОЎ**.

## Вагон № 26

Цягнік Горадня — Гомель яшчэ стаяў, а пасажыры пачалі рыхтавацца да сну. Некаторыя, дастаўшы з верхніх паліц брудныя матрацы, страсалі іх, расьцілалі і, не пакрыўшы сваю пасьцель прасьцінамі, клаліся спаць, накрыўшыся зьверху ўласным палітом. Былі й больш прыстасаваныя: яны нясьпешна раскрывалі свае кайстры, выцягвалі адтуль прасьціны, пакрывалі імі такія ж брудныя матрацы і, задаволеныя зробленым, таксама адпачывалі. Але была й трэцяя група пасажыраў, якія проста разьмясьціліся на голых паліцах.

Я назіраў за ўсімі й чакаў правадніцу. Дзесьці каля Ськідаля правадніца, нарэшце, зьявілася. Убачыўшы, што ў davераным ёй вагоне пасажыры ўжо сьпяць, пачала хвалявацца, крычаць. Я паспрабаваў патлумачыць ёй, што мне трэба ўзяць камплект пасьцельнай бялізны, але яна мяне ня чула. Падляцеўшы да бліжэйшага з тых, хто нядаўна так утульна ўладкаваўся на старэнькім матрацы, паспрабавала ськінуць яго з паліцы. Сьцягнуўшы трох такіх начлежнікаў на падлогу, правадніца пачала енчыць: «Чаго разьлягліся? Нельга. Інструкцыя!» Пасажыры пачалі абурацца: маўляў, навошта нас трывожыце, нам і так добра. Але правадніца пачала тлумачыць, што за матрацы трэба плаціць, і плаціць цэлых 50 рублёў.

Сусед па купэ пакорпаўся ў кішэнях, але ў працягнутую руку правадніцы нічога ня трапіла. Мужчына скруціў тое, што было ў яго пад бокам і кінуў некуды наверх. Правадніца кінулася да наступнага, але й той пачаў адбівацца: «За такую брыдоту ды яшчэ й плаціць!?» Атрымаўшы адпор, правадніца зьнікла, а праз нейкі час зьявілася ўжо з брыгадзірам, той таксама спрабаваў навесьці парадак. Але людзі, якія ўжо ўладкаваліся спаць, нават не рэагавалі. Убачыўшы, што з усяго вагона я адзін пакуль што ня сплю, брыгадзір падыйшоў да мяне. Калі я патлумачыў, што хачу ўзяць сабе пасьцель, каб адпачыць як чалавек, той зьдзівіўся: а ты што, грошы лішнія маеш? Бачыш, як астатнія сьпяць, але калі ў цябе ёсьць лішнія, тады плаці — з 1 красавіка такое задавальненьне каштуе 200 рублёў — хіба не шкада? Пералічыўшы атрыманыя ад мяне грошы, праваднікбрыгадзір прынёс камплект бялізны, на якім, магчыма, спаў мой дзед за польскім часам.

Разаслаўшы гэты скарб, я лёг спаць, але сон доўга ня йшоў да мяне: у галаве раіліся думкі — дзіўная рэч, сёньняшняе жыцьцё й людзі, якія едуць разам са мной. Усе яны едуць гандляваць аж да Расеі, толькі й чуеш між імі размовы, дзе й што лепей прадаць, што хутчэй ідзе на торжышчы Польшчы, Кітаю, колькі можна зарабіць, перапрадаўшы беларускае мяса, масла ў Расеі, Польшчы, падлічваюць барышы. А вось ствараць сабе элементарныя чалавечыя ўмовы не жадаюць — шкада грошаў.

**Г. АСТРОЎСКІ.**



